**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 13 (729) 27 сакавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



## 29 сакавіка а 10-й гадзіне ў Глыбокім адбудзецца адкрыццё новай фірмовай крамы "Мэбля Пінскдрэў"

**Пры адкрыцці крамы – канцэрт вядомай спявачкі! Першым пакупнікам – падарункі і прызы. Запрашаем!**

У будынку гандлёвага дома "Эліс" па вуліцы Леніна, 36 ужо размясціліся новыя мяккія ўтульныя канапы, шыкоўныя наборы элітнай мэблі, элегантныя спальні, гасцінця і дзіцячыя ад вядучага брэнда краіны. Мэбля выраблена з матэрыялаў натуральных і па-экалагічнаму чыстых.

Прадаўцы-кансультанты ў краме заўсёды з радасцю дапамогуць і падкажуць. Калі ў наяўнасці не станецца патрэбнай мадэлі, якую Вы знойдзеце ў фірмовым каталогу, магчымы выраб яе пад замову.

Вы можаце купіць мэблю ў растэрміноўку. У краме ўжо праходзяць распродажы асобных мадэляў корпуснай і мяккай мэблі і іншыя акцыі.

*УНП 300808152*





## На 1,8% павышаны тарыфы на цеплавую і электраэнергію для бальніц, дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, інтэрнатаў, рэлігійных арганізацый

У Беларусі на 1,8% павышаны тарыфы на цеплавую і электрычную энергію для бальніц, дзіцячых дамоў сямейнага тыпу, інтэрнатаў, рэлігійных і іншых арганізацый. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Мінэканомікі ад 6 сакавіка 2014 года № 14 і 15, паведамілі ў прэс-службе міністэрства.

Новыя тарыфы ўстаноўлены таксама для арганізацый аховы здароўя, садаводчых таварыстваў, дачных і гаражных кааператываў, арганізацый, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду, і іншых.

Тарыф на цеплаэнергію для іх складзе 82.020 рублёў за 1 Гкал, на электраэнергію — 745,9 рубля за 1 кВт•гадз.

Як пракаментавалі ў Мінэканомікі, "пастановай Савета міністраў ад 28 лютага 2014 года № 179 павялічаны тарыфы на электрычную і цеплавую энергію для насельніцтва. У мэтах прывязднення ў адпаведнасць разлікаў за спажытую электрычную і цеплавую энергію арганізацыямі, якія маюць тарыфы на гэтыя энергарэсурсы на ўзроўні тарыфаў для насельніцтва, Міністэрствам эканомікі аналагічным чынам зменены адпаведныя тарыфы для названых катэгорый спажыўцоў".

*М. Носава, БелаПАН.*

## Віцебскі раён

# У "машэраўцаў" новы рэктар

■ Станіслаў Раманчук

**Асабліва ў сферы навукі і адукацыі вельмі важна, калі ўстанову ўзначальвае творчы, энергічны кіраўнік і яшчэ гаспадар.**

Амаль паўгода ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце заставалася вакантнай пасада рэктара. Папярэдні яе лідар Аляксандр Саладкоў трагічна загінуў пасярод восені ў ДТЗ па віне сустрэчнага вадзіцеля на тэрыторыі Крупскага раёна падчас службовай камандзіроўкі. І вось днямі на дзяржаўным узроўні было ўзгоднена прызначэнне новага, даволі маладога рэктара 44-гадовага Аляксея Ягорава. Дагэтуль гэты навуковец працаваў дэканам юрыдычнага факультэта ў Полацкім дзяржуніверсітэце. Ён у маладосці два дзесяцігоддзі назад атрымаў вышэйшую адукацыю ва Украіне, дзе закончыў дзяржаўную юрыдычную акадэмію. У далейшым ён удасканальваў сваю юрыдычную адукацыю, абараніў кандыдацкую дысертацыю і атрымаў вучоную ступень дацэнта, кандыдата навук. Адначасова Аляксей Уладзіміравіч займаўся навукай, уваходзіў ў навукова-метадычнае аб'яднанне па гуманітарных навуках пры вядучым айчынным ВНУ – Белдзяржуніверсітэце. Апошнім часам новы рэктар займаўся і практычнай юрыдычнай практыкай. Ён стаў першым старшынёй трэцейскага суда ў родным горадзе. Гэты юрыст высокай кваліфікацыі, асабліва добра ведае пытанні заключэння міжнародных кантрактаў і прыватнага права за мяжой. Усе гэтыя якасці дапамогуць новаму рэктару ВДУ захаваць ВНУ абласнога цэнтра адным з вядучых рэгіянальных універсітэтаў.

## Ушацкі раён

# Тонкі лёд-забойца

■ Кастусь Александровіч

**Сёлетняя зіма аказалася амаль бяссснежнай, моцных халадоў было няшмат, што прывяло да ранняга веснавога надвор'я.**

На жаль, многія суайчыннікі гэтага не разумелі і лезлі на вадаёмы, калі яны сталі смяртэльна небяспечныя. Вось і пажылая сямейная пара з Ушач быццам нямала пажыла на свеце, але з рызыкай для жыцця адправілася парыбачыць на адной са шматлікіх азёр паблізу райцэнтра. Скончылася такая рыбалка для іх трагічна, бо абодва пенсіянеры ва ўзросце 60 і 64 гадоў імгненна правалілісяпад лёд ў паўсотні метраў ад берага і загінулі. Іх целы вадалазам доўга не ўдавалася знайсці. Увогуле ў сярэдзіне сакавіка такія жудасныя паведамленні прыходзілі практычна штодзень з розных куткоў вобласці. Адразу трое рыбакоў трапілі ў лядзяную пастку ў Аршанскім раёне на возеры Вялікае Арэхаўскае, з іх аднаго так і не ўдалося ўратаваць. На возеры ў Гарадоцкім раёне ад гора-рыбалова засталіся вакол палонкі яго амуніцыя і гумавыя боты. На працягу аднаго тыдня, калі нельга было выходзіць на тонкі лёд, знайшлі сваю пагібель у вадзе яшчэ 5 нашых суайчыннікаў. З пачатку года колькасць такіх ахвяр людскога глупства дасягнула васьмі чалавек. Ніхто не лічыў, колькі яшчэ добраахвотных тапельцаў рызыкавала, праваьвалася пад лёд, выбіралася адтуль. Дарэчы, факты гібелі рыбакоў зафіксаваны былі і ў Расонскім, Чашніцкім раёнах і ў горадзе Наваполацку. Двое ж жыхароў Докшыцкага раёна паспелі налавіць рыбкі на рацэ Бярэзіна сеткамі на тэрыторыі біясфернага запаведніка, але былі злоўлены, і за браканьерства заплоцяць буйныя штрафы.

## Пастаўскі раён

# Паўстане другі касцёл

■ Чэслаў Якубовіч

**Як і чакалася, у сярэдзіне сакавіка адзін з першых душпастырскіх візітаў новы біскуп Віцебскі Алег Буткевіч зрабіў у Паставы.**

Справа ў тым, што ён на папярэдняй сваёй пасадзе быў пробашчам аднайменнага касцёла абласнога цэнтра і такую ж назву мае мясцовы прыгожы храм, помнік архітэктуры неаготыкі. Паміж дзвюма парафіямі існавалі цесныя сувязі і невыпадкова, што тут кіраўнік каталіцкай дыяцэзіі зрабіў важную заяву. Біскуп падчас Багаслужэння аб'явіў у сваёй яркай прамове, што ў райцэнтры будзе арганізавана яшчэ адна парафія і пачнецца будаўніцтва другога па ліку храма. Гэтай святыне надаецца тытул Езуса Міласэрнага і такім чынам названы галоўны катэдральны касцёл Прыдзвіння. На Пастаўшчыне цяпер пераважаюць вернікі каталіцкага веравызнання. У самім горадзе з насельніцтвам 20 тысяч чалавек людзі актыўна пацягнуліся да спрадвечнай веры сваіх продкаў. Падчас галоўных хрысціянскіх святаў нават мясцовы даволі вялікі і ўтульны касцёл з вежай-званіцай вышынёй амаль 100 метраў не ў стане ўмясціць усіх жадаючых удзельнічаць у імшы. Даводзіцца многім людзям слухаць яе на вуліцы. Ды і кожную нядзелю, калі праходзяць чатыры літургіі, храм поўны вернікаў, тут шмат моладзі. Увогуле ж у Паставах першая парафія ўзнікла яшчэ ў 1522 годзе. Тады ж быў пабудаваны драўляны касцёл. Пасля вайны святыню бальшавікі зрабілі складам, а потым цэхам завода, касцёл быў перададзены вернікам толькі вясной 1988 года.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.03.14 | | | | Пятніца 28.03.14 | | | | Субота 29.03.14 | | | | Нядзеля 30.03.14 | | | | Пн.31.03.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +8 | +14 | +10 | +8 | +5 | +7 | +1 | -2 | 0 | +6 | +2 | 0 | +1 | +6 | +3 | +1 | +2 | +8 |
| Ціск | 753 | 753 | 752 | 751 | 751 | 752 | 753 | 755 | 757 | 758 | 756 | 754 | 751 | 750 | 749 | 748 | 746 | 744 | 743 |
| Вільготнасць | 76 | 82 | 61 | 77 | 80 | 73 | 41 | 51 | 65 | 65 | 37 | 64 | 76 | 83 | 53 | 65 | 77 | 70 | 42 |
| Вецер м/сек | 6 В | 6 В | 4 В | 3 С-В | 4 С-В | 7 С-В | 7 С-В | 6 С-В | 4 С-В | 4 В | 1 С-З | 2 С-З | 3 З | 2 С-З | 3 С-З | 3 С | 1 С-З | 1 Ю-З | 5 С-З |

# Аб самым надзённым

## БОЛЬШАСЦЬ ЗМЕН ПРЫ ПАСТУПЛЕННІ Ў АЙЧЫННЫЯ ВНУ І ТЭХНІКУМЫ ЗАКРАНЕ СЕЛЬСКІХ АБІТУРЫЕНТАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч

**У выніку беларусы дайшлі да таго, што хутка не будзе каму вучыць дзетак у школах глыбінкі, як і не хапае цяпер падрыхтаваных спецыялістаў для працы на зямлі. Між тым і сёлета неўзабаве амаль 100 тысяч юнакоў і дзяўчат у Беларусі будуць вырашаць, якую жыццёвую дарогу выбраць пасля школы, куды пайсці вучыцца.**

З-за вельмі вострага расійска-ўкраінскага канфлікту пасля фактычнай анексіі Крамлём Крыма ранейшыя адносіны Беларусі са сваімі бліжэйшымі суседзямі, відавочна, змяніліся. Для нас, напэўна, наступяць страты ва ўзаемным гандлі з-за абвалу эканомік айчынных гандлёвых партнёраў № 1 і № 2 , а эканамісты гэта разумеюць. Характэрна, што калі днямі ў Мінску праходзіла чарговая прэзідэнцкая нарада па новай рэдакцыі правілаў прыёму ў навучальныя ўстановы для атрымання вышэйшай і сярэднеспецыяльнай адукацыі, напружаная сітуацыя на поўдні ад беларускіх граніц таксама ўзгадвалася.

Беларускі лідар пракаментаваў зноў гэтыя падзеі для таго, каб падкрэсліць, што ў сістэме айчыннай адукацыі ўдалося пераадолець масавыя праявы карупцыі. У працэс паступлення быццам цяжка ўмяшацца багаценькім бацькам, каб прапіхнуць сваіх дзяцей у самыя прэстыжныя ВНУ. А вось самой нарады па педагагічных пытаннях чакалі даўно і з яе правядзеннем яўна спазніліся. Мінулагодняя ўступная кампанія, калі праваліліся на старце дзясяткі тысяч абітурыентаў і здарыўся недабор у многіх ВНУ, выявіла крызіс і ў гэтай сферы.

Найперш зазначым відавочны дэмаграфічны абвал, бо знізілася яўна колькасць выпускнікоў школ. Цэлыя галіны, найперш сельская гаспадарка адчуваюць недахоп маладых кваліфікаваных спецыялістаў. Да таго ж падае ўзровень ведаў цяперашніх абітурыентаў. Апошнім часам стала правілам уносіць змены ў парадак паступлення. Калісьці і цэнтралізаванае тэсціраванне можна было праходзіць некалькі разоў. Універсітэты і акадэміі набіралі студэнтаў у два патокі, у першыных камісій быў выбар залічваць на падставе сертыфікатаў ЦТ альбо прымаць уступныя экзамены. Нарэшце мяняліся планкі мінімальных балаў для ўдзелу ў конкурсе.

У выніку беларусы дайшлі да таго, што хутка не будзе каму вучыць дзетак у школах глыбінкі, як і не хапае цяпер падрыхтаваных спецыялістаў для працы на зямлі. Між тым і сёлета неўзабаве амаль 100 тысяч юнакоў і дзяўчат у Беларусі будуць вырашаць, якую жыццёвую дарогу выбраць пасля школы, куды пайсці вучыцца. Цікава, што парадак адбору лепшых першакурснікаў ВНУ па новых правілах быў гатовы, па справаздачах чыноўнікаў Мінадукацыі РБ, яшчэ летась. Абяцалі, што мінулагодняй восенню з гэтымі правіламі азнаёмяць грамадскасць, але і напрыканцы снежня такая нарада ў сталіцы не адбылася.

Нарэшце 11 сакавіка пасяджэнне правяла і вызначыла галоўнае, што сёлета выпускнікі гарадскіх і сельскіх школ будуць канкурыраваць на роўных умовах, але пашырыцца мэтавая падрыхтоўка спецыялістаў у ВНУ. Пасля нарады больш льготныя ўмовы вырашана стварыць для паступлення моладзі на непрэстыжныя прафесіі, найперш для АПК. На мэтавую падрыхтоўку па сельскагаспадарчых спецыяльнасцях мэтавы набор абітурыентаў павялічыцца да 60 %. Тым, хто не пройдзе па конкурсе, дадуць магчымасць падаць дакументы туды, дзе будзе недабор.

Адпаведныя змены закрануць і спецыяльнасці педагагічнага профілю, а пераможцам і прызёрам розных алімпіяд, спаборніцтваў і конкурсаў на шэраг дэфіцытных спецыяльнасцей дадуць права паступлення ўвогуле без экзаменаў па-за конкурсам. Такое права будзе дзейнічаць і для юнакоў, хто выбірае ваенную прафесію і паспяхова адвучыўся ў кадэтскіх, сувораўскім вучылішчах і ў ліцэі інжынернага інстытута МНС. Аднак пры паступленні на прэстыжныя спецыяльнасці з самым высокім конкурсам ужо гэтыя льготы і розныя дыпломы не дапамогуць.

Праўда, на нарадзе не прыйшлі да адзінай думкі, ці трэба сёлета зніжаць планку мінімальнага бар'еру на тэсціраванні. А вось курс на пераход на 4-гадовы цыкл навучання ў ВНУ прадоўжыцца і надалей. Верагодна, што прымуць рашэнне аб павелічэнні да 5 гадоў тэрміну абавязковай адпрацоўкі выпускнікоў ВНУ па размеркаванні, у першую чаргу для тых, хто вучыўся па мэтавым накіраванні.

Час ляціць хутка, але слаба вырашаецца ў краіне вострая праблема забеспячэння студэнтаў жыллём. Ды і атрымоўваць жаданы дыплом з кожным годам становіцца ўсё даражэй, бо мы падышлі да таго, што амаль 7 з 10 студэнцкіх месц платныя. А вось перад будучымі прэзідэнцкімі выбарамі ў нас вырашылі болей не крыўдзіць настаўнікаў і павысіць ім зарплату. Першая такая спроба пры павелічэнні педнагрузак да рэальнага росту заробку не прывяла. Аднак новая палітычная сітуацыя вымагае рашучых мер, хоць патрэбных рэзерваў у мясцовых бюджэтах небагата.

## Дзень за днём

**У большасці акруг выбары дэпутатаў мясцовых саветаў былі без выбару. У параўнанні з 2012 годам чысты прыбытак беларускіх вытворцаў знізіўся на 40,7 %. Знешні доўг краіны летась вырас яшчэ на 5,4 млрд. долараў і дасягнуў 39,124 млрд. USD. З новага навучальнага года А. Лукашэнка загадаў павялічыць зарплаты настаўнікам і папрасіў РФ размясціць у Беларусі дадатковыя самалёты ў адказ на крокі НАТО па Украіне. Летась Фонд сацабароны насельніцтва РБ упершыню сфарміраваўся з дэфіцытам пад 300 млрд. рублёў. Для беларусаў даволі істотна падаражэлі паслугі тэлефоннай сувязі. Уступная кампанія-2014 пачалася без асноўнага дакумента – Правіл паступлення ў ВНУ і тэхнікумы. Тэрмін адпрацоўкі маладых спецыялістаў па размеркаванні можа быць павялічаны.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Рускія пашкадуюць, па ацэнках экспертаў, пра далучэнне Крыма, бо туды штогод трэба ўкладваць да 8 мільярдаў долараў на інфаструктуру, будзе рост праблем у РФ і на Каўказе.

**Літва.** У краіне сабралі 300 тысяч подпісаў за правядзенне сёлета ў маі-ліпені рэферэндуму аб забароне продажу літоўскіх зямляў замежным грамадзянам.

**Чылі.** Пасля 4-гадовага перапынку пасаду прэзідэнта зноў заняла 62-гадовая Мішэль Бачэлет, якая паабяцала зрабіць бясплатнай атрыманне адукацыі, змяніць Канстытуцыю.

**Украіна.** Кампанія "Нафтагаз" да сярэдзіны лета можа не купляць зусім газ у "Газпрама", Кіеў у стане імпартаваць больш танны газ з Польшчы і Венгрыі, рэверсам са Славакіі.

**Германія.** Канцлер ФРГ А. Меркель у вельмі жорсткай форме прыгразіла Расіі цяжкімі наступствамі, эканамічнай і палітычнай ізаляцыяй за агрэсію супраць Украіны.

**Кыргыстан.** МЗС краіны асудзіў дзеянні Расіі па дэстабілізацыі абстаноўкі ва Украіне і дзейнасць былога ўкраінскага карумпаванага лідара В. Януковіча, які уцёк з радзімы.

**Грузія.** Улады краіны адмянілі гастролі маскоўскага тэатра С. Бязрукава з-за яго публічнай падтрымкі расійскай анексіі Крыма, варожасці Крамля да народа Украіны.

**Літва.** Пуцінская Расія стала нагадваць, як адзначыла прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ, цяпер фашысцкую Германію, мы павінны страляць, калі нас паспрабуюць акупіраваць.

**Расія.** Сусветна вядомы кінарэжысёр А. Сакураў абурыўся ўлюблёнасцю рускіх у вайну, бо Украіна ўсё роўна выжыве і будзе той дзяржавай, якой хацела, а Расія дэградуе.

**Швейцарыя.** У адказ на мясцовы рэферэндум аб абмежаванні міграцыі з еўрапейскіх краін ЕС прыпыніў дзеянне праграм студэнцкага абмену для швейцарцаў.

**ЗША.** З дапамогай агрэсіўнай тэрапіі вучоныя медыкі краіны вылечылі яшчэ адно дзіця з вірусам ВІЧ усяго праз некалькі гадзін пасля яго з'яўлення на свет.

**Расія.** На фоне абвалу на валютным і фондавым рынках Цэнтрабанк РФ адклікаў ліцэнзіі на ажыццяўленне банкаўскіх аперацый яшчэ у трох банкаў, з восені ідзе бегства капіталу.

**Літва.** Для барацьбы з афрыканскай чумой свіней урад выдзеліў 600 тысяч еўра на пабудову загараджальнай сеткі на мяжы з Беларуссю, каб яе не пераходзілі хворыя дзікі.

**Германія.** Беларускае выдавецтва ў выгнанні "Логвінаў" стала ганаровым госцем буйной Лейпцыгскай кніжнай ярмаркі з праектам прасоўвання кніг і аўтараў на заходні рынак.

**Расія.** Амаль 100 знакамітых дзеячаў расійскай культуры выступілі супраць анексіі і вайны ў Крыме і рэстаўрацыі таталітарызму, супраць самаізаляцыі краіны ў свеце.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Каб не ядзерная зброя, як заявіў палітолаг Юрый Дракахруст, другая Крымская вайна паміж Захадам і Расіяй ужо б ішла, але РФ чакае міжнародны ціск і поўная ізаляцыя

**Бабруйск.** МЗС Украіны выказала занепакоенасць, што тут прызямліліся на аэрадроме 6 самалётаў-знішчальнікаў Су-27 і тры ваенна-транспартныя барты ВПС агрэсара Расіі.

**Брэст.** Генеральны консул Украіны Алег Мысік жорстка адрэагаваў на антыўкраінскі матэрыял у газеце "Вечерний Брест", назваў Майдан "сімвалам свабоды" яго дзяржавы.

**Мінск.** Украінцы – нашы браты, як падкрэсліў А. Лукашэнка, мы не будзем перашкаджаць цяперашнім украінскім палітыкам, аднак будзе праведзены 2-гі этап праверкі УС Беларусі.

**Салігорск.** Каб пазбегнуць магчымых эканамічных санкцый, ААТ "Беларуськалій" вывелі са складу канцэрна "Белнафтахім", яго доля на рынку калія ў свеце больш 16 %.

**Барысаў.** Маладога гендырэктара "Барысаўдрэва" У. Мальцава за сарваныя тэмпы мадэрнізацыі арыштавалі, апісалі маёмасць за быццам злоўжыванні на пасадзе.

**Мінск.** Следчы камітэт РБ завяршыў расследаванне справы экс-намесніка старшыні "Белнафтахіма", у карупцыянера канфіскуюць 2 кватэры, BMW X5 і 100 тысяч долараў.

**Гродна.** З абласной дзіцячай бальніцы выпісалі 11-гадовую дзяўчынку, з кішэчніка якой мясцовыя хірургі ўпершыню дасталі металічную шпільку, якую яна раптоўна праглынула.

**Мінск.** За правалы ў мадэрнізацыі, як заявіў вучоны-эканаміст Л. Заіка, саджаць трэба не асобных дырэктараў, а "галоўнага мадэрнізатара", людзей з урада, яны гробяць грошы РБ.

**Ганцавічы.** У двары свайго дому ў вёсцы Пераволокі трагічна загінула 85-гадовая пенсіянерка пры спальванні сухой травы, штогод у РБ такім чынам гінуць да 10 чалавек.

**Скідзель.** Мясцовы цукровы завод прафінсаваў выданне грунтоўнай кнігі-даследвання пра гісторыю роднага мястэчка і яго ваколіц, пачынаючы з XV стагоддзя.

**Мінск.** Пасля доўгага перапынку сабраліся разам спяваць выдатныя спевакі Л. Барткевіч, В. Касенка, А. Кашапараў і іншыя "залатыя галасы залатога складу ансамбля "Песняры".

**Пухавічы.** Падчас тушэння пажару ў вёсцы Станіслава выратавальнікі знайшлі вядро, у якім знаходзілася 10 кг небяспечнага рэчыва ртуці, якую прыйшлося эвакуіраваць.

**Мінск.** Жыхары амаль 50 краін за 2 месяцы да пачатку чэмпіянату свету па хакеі ўжо набылі білеты на матчы, на "Мінск-Арэну" рэалізавалі ўжо да 75 % квіткоў.

## Беларускія і брытанскія ВНУ плануюць падпісаць пагадненне аб узаемным прызнанні дыпломаў




■ БЕЛТА

**Беларускія і брытанскія ВНУ плануюць падпісаць пагадненне аб узаемным прызнанні дыпломаў. Пра гэта паведаміў сёння выканаўчы дырэктар брытанскай бізнес- школы Magna Carta Oxford Вадзім Цітоў падчас круглага стала «Якасць адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» у прэс - цэнтры БЕЛТА .**

Як распавёў Вадзім Цітоў, сёння бізнес- школа Magna Carta Oxford і асацыяцыя ABE (Association of Business Executives) рыхтуюцца падпісаць з беларускімі ВНУ пагадненне аб узаемным прызнанні дыпломаў. Адпаведны дакумент беларускі бок і прадстаўнікі бізнес-школы Magna Carta Oxford і асацыяцыі ABE плануюць падпісаць падчас I Міжнароднага адукацыйнага форуму «Еўрапейскае якасць адукацыі» (EQE - Forum), які адбудзецца ў Мінску ў пачатку красавіка. Прадстаўнікі дзвюх сістэм адукацыі, беларускай і ангельскай, будуць разглядаць склад навучальных прадметаў і аб'ём вучэбных гадзін на іх адпаведнасць адзін аднаму. Будуць праведзены кансультацыі ангельскіх і беларускіх спецыялістаў па адпаведнасці дзвюх сістэм адукацыі, магчыма, спатрэбіцца выдаленне або даданне пэўных прадметаў або гадзін. Для гэтага будзе створана рабочая група , якая перагледзіць утрыманне пэўных спецыяльнасцяў або навучальных модуляў і дамовіцца аб узаемным прызнанні дыпломаў.

Пры гэтым Вадзім Цітоў адзначыў, што пэўнай перашкодай можа стаць той факт, што не ва ўсіх беларускіх ВНУ працэс навучання можа праходзіць на англійскай мове. «Але нават прызнанне дыпломаў аднаго беларускага ВНУ стане добрым стымулам для іншых беларускіх ВНУ праводзіць навучанне на англійскай мове. Гэта ў сваю чаргу прывядзе да таго, што Беларусь як стабільная, спакойная і добрая краіна ў цэнтры Еўропы стане больш прывабнай на міжнародным рынку экспарту адукацыі », - упэўнены эксперт.

Гаворачы аб экспарце адукацыйных паслуг, Вадзім Цітоў адзначыў, што ва ўмовах высокай канкурэнцыі і наяўнасці ў свеце розных сістэм адукацыі найбольш эфектыўным сродкам прыцягнення замежных студэнтаў з'яўляецца стварэнне ўмоў, пры якіх яны могуць атрымаць дыплом аб адукацыі не толькі гэтай краіны, але і іншы, дыплом якой прызнаецца ў максімальным ліку краін свету. «Стварэнне ўмоў, калі беларуская ВНУ ў партнёрстве з замежным ВНУ, напрыклад ангельскай, будзе даваць два дыпломы, адназначна дасць магчымасць павысіць экспарт адукацыйных паслуг у Беларусі», - лічыць ён.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Дуброўна.** На сустрэчы з калектывам льнозавода міністр працы РБ М. Шчоткіна падкрэсліла, што ў Беларусі пакуль не плануецца павышаць пенсійны ўзрост.

**Полацк.** На канец месяца запланавалі здачу ў эксплуатацыю праблемнага дома, у вобласці застаецца яшчэ 3 дамы-даўгабуды ( 2 у Оршы, 1 - у Віцебску), іх закончаць летам.

**Гарадок.** Глава вобласці А. Косінец загадаў інтэнсіўней весці работы па падрыхтоўцы "Дажынак", якія пройдуць 19-20 верасня, абнавіць універмаг, кінатэатр, цэнтр горада.

**Орша.** Пасля праверкі Дзяржкантролю сумесна з міліцыяй ад займаемай пасады вызвалілі дырэктара завода жалеза-бетонных вырабаў мясцовага будтрэста № 18, там выявілі шмат прыпісак уліку.

**Глыбокае.** Да 600-годдзя ў горадзе ўстановяць скульптуру "Хрыстос і самарыцянка", новае пано з крыжам на ўеэдзе, адкрыюць алею землякоў-Герояў Сацыялістычнай працы

**Паставы.** Услед за цэнтральнай часткай Расіі пачалі адгрузку сваіх сыроў пад гандлёвай маркай "Паставы-Гарадок" у далёкі Хабараўск працаўнікі мясцовага малочнага завода.

**Шуміліна.** Вечарам падчас п'янкі на ферме Вайловічы 36-гадовы жывёлавод забіў сабутэльніка, каб схаваць сляды злачынства, устроіў пажар, але труп знайшлі і забойцу.

**Гарадок.** Камунгас адмяніў тэндар па выбару арганізацыі на праектаванне, выраб і ўстаноўку святочнай ілюмінацыі і падсветкі ў раённым цэнтры да "Дажынак-2014".

**Орша.** У горадзе-спутніку Барані аўстрыйская кампанія завяршыла рэжымна-наладачныя работы на новай міні-ТЭЦ на мясцовых відах паліва, яе падключылі да кацельні з газам.

**Шаркоўшчына.** У канцы рабочага дня на ферме Пялікі ААТ "Даватарскі" ў выніку пажару загінулі 30 цялят, яшчэ 137 пацярпелых кароў прыйшлося прырэзаць.

**Ушачы.** Днём ля вёскі Заазер'е на возеры праваліся пад лёд і патанулі рыбакі-пенсіянеры, муж з жонкай з раённага цэнтра ва ўзросце 64 і 60 гадоў, за тыдзень тонкі лёд забраў 5 ахвяр.

**Докшыцы.** Фермер Васіль Мацкевіч выдзеліў грошы храму св. Духа вёскі Беразіно на абуладкаванне тэрыторыі вакол царквы, раней за яго грошы замянілі дах, купал, агароджу.

**Браслаў.** У раённую бальніцу даставілі з траўмамі вадзіцеля, які каля райцэнтра не справіўся з кіраваннем Skoda Octavia, зляцеў з трасы і ўдарыўся ў прыдарожнае дрэва.

**Полацк.** Аўтапарк мясцовага пагранічнага атрада папоўніўся спецыяльным аўтамабілем "Пежо-Баксёр", прызначаным для перавозкі ў 4 атсеках службовых сабак.

**Віцебск.** У мясцовым заапарку з'явіўся чарговы навасёл - рэдкі паўднёва-амерыканскі вярблюд гуанако, які перадалі калегі з Гродна, ён можа доўга абыходзіцца без вады.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Дзяржаўная лясная ахова праводзіць рэйды па спыненні незаконнага збору бярозавіку

**Дзяржаўная лясная ахова праводзіць рэйды па спыненні незаконнага збору бярозавіку.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі, з пачаткам сезона нарыхтоўкі бярозавіку дзяржаўная лясная ахова па традыцыі асаблівую ўвагу надае ахове гаёў і змешаных лясоў, дзе растуць спелыя бярозы, паколькі самавольная нарыхтоўка соку без дазвольных дакументаў у рэспубліцы забаронена.

Згодна з правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага карыстання, нарыхтоўваць бярозавік можна толькі ў перастойных і спелых лясах, прызначаных для высечак галоўнага карыстання. Але не больш чым за пяць гадоў да іх высечкі і спосабамі, якія не могуць нанесці ўрон дрэвам. Для прамысловай нарыхтоўкі бярозавіку неабходна набыць лясны білет і атрымаць дазвол ад лясгасаў. Лясніцтва вызначаць канкрэтныя ўчасткі нарыхтоўкі.

У лясніцтвах вызначаны ўчасткі лесу, прызначаныя для нарыхтоўкі бярозавіку грамадзянамі для ўласных патрэб. Усе жадаючыя нарыхтаваць сок павінны звярнуцца ў лясніцтва. Спецыялісты ўкажуць спецыяльна адведзеныя для збору соку ўчасткі, правядуць інструктаж і пракантралююць тэхналогію падсочкі. У лясніцтвах можна будзе набыць і нарыхтаваны сок па прымальных цэнах, зазначае прэс-служба.

У Мінлясгасе нагадваюць, што за парушэнне правілаў нарыхтоўкі соку і тэрмінаў прадугледжаны штрафы: у дачыненні да грамадзян — да 20 базавых велічыняў, у дачыненні да індывідуальных прадпрымальнікаў — да 100, у дачыненні да юрыдычных асоб — да 500.

Заканадаўствам вызначаны тэрыторыі, на якіх нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца. Да іх адносяцца гарадскія, курортныя лясы і лесапаркавыя часткі зялёных зон; прыбярэжныя палосы рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў; палосы адводу чыгунак і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній; населеныя пункты; дэндралагічныя паркі, батанічныя сады; гісторыка-культурныя запаведнікі, мемарыяльныя паркі; месцы насялення дзікіх жывёл і вырошчвання дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Беларусі; тэрыторыі санаторыяў, дамоў адпачынку, курортаў і ўстаноў аховы здароўя, а таксама акругі і зоны санітарнай аховы курортаў; месцы масавага адпачынку насельніцтва.

*М. Носава, БелаПАН.*

**З 24 сакавіка па 2 красавіка УП "Белтэхагляд", УДАІ МУС, Транспартная інспекцыя Мінтранса правядуць чарговую сумесную дэкаду "Дзяржтэхагляд", паведаміла прэс-служба Міністэрства транспарту і камунікацый.**

"Асноўная мэта акцыі — узмацненне кантролю за своечасовым праходжаннем дзяржаўнага тэхнічнага агляду транспартных сродкаў і прыцягненне ўвагі аўтаўладальнікаў да пытанняў падтрымання аўтамабіляў у тэхнічна спраўным стане",– зазначыла прэс-служба.

# У Беларусі ўзмоцнены кантроль за праходжаннем тэхагляду

Зараз ужо складзены план сумесных рэйдаў, узгоднены маршруты патрулявання. Групы, у склад якіх увойдуць прадстаўнікі ДАІ, Транспартнай інспекцыі і УП "Белтэхагляд", будуць у першую чаргу звяртаць увагу на аўтамабілі, што эксплуатуюцца без дазвольнай наклейкі на ветравым шкле. Будуць таксама правярацца транспартныя сродкі, якія маюць яўныя неадпаведнасці па знешнім выглядзе.

У сталіцы напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі асаблівая ўвага будзе надавацца аўтатранспарту, які перавозіць пасажыраў, — аўтамабілям-таксі і маршрутным таксі, "стан якіх выклікае шмат нараканняў", паведамляе прэс-служба.

Аўтаўладальнікі, якія эксплуатуюць транспартныя сродкі без своечасова пройдзенага дзяржтэхагляду, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці. Нагадаем, што сума штрафу за такое парушэнне складае да дзвюх базавых велічыняў.

Паводле інфармацыі прэс-службы, дэкада традыцыйна праводзіцца двойчы ў год: вясной і восенню. "Мерапрыемства нагадае аўтаўладальнікам, што своечасова пройдзены дзяржтэхагляд — залог бяспекі ўсіх удзельнікаў руху на дарогах рэспублікі", — падкрэслілі ў ведамстве.

*Марына Носава, БелаПАН*

# 25 сакавіка – 96 гадоў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі



Помнік Вацлаву Ластоўскаму, гісторыку і прэм'ер-міністру Беларускай Народнай Рэспублікі ў Глыбокім на Алеі славутых землякоў.

■ **Зміцер Лупач**

**96 гадоў таму, 25 сакавіка 1918 г., а 8-й раніцы ў акупаваным немцамі Мінску, у будынку па адрасе Серпухаўская, 9 (сённяшняя Валадарскага, 9) была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.**

І хаця БНР не змагла доўга пратрымацца, гэта падзея мела вялікае значэнне. Бальшавіцкі ўрад быў вымушаны стварыць БССР, якая была ўтвораная 1 студзеня 1919 года ў Смаленску. З беларускім пытаннем пачалі лічыцца. Сапраўды незалежнай Беларусь змагла стаць толькі ў 1991 годзе.

Першы раз Дзень Волі адзначылі ў Мінску ў 1920 годзе. У даваенныя гады гэта свята адзначалася моладдзю ў Заходняй Беларусі, таксама гэты дзень урачыста адзначае беларуская эміграцыя.

Да абвяшчэння БНР спрычыніліся тасама і нашыя землякі Вацлаў Ластоўскі і Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Вацлаў Ластоўскі быў прэм'ерам БНР з 1919 па 1922 год, Клаўдзій Дуж-Душэўскі лічыцца аўтарам бел-чырвона-белага сцяга. У 2012 годзе, калі ў Глыбокім адзначаўся Дзень беларускага пісьменства, Вацлаву Ластоўскаму быў пастаўлены бюст на Алеі славутых землякоў, а на доме па вул. М. Горкага, 22, дзе побач стаяў дом, у якім нарадзіўся Клаўдзій Дуж-Душэўскі, усталявана мемарыяльная дошка.

У гэтым годзе глыбоцкія журналісты ўсклалі кветкі да помніка Вацлаву Ластоўскаму ў Глыбокім.



# Выкарыстанне маламерных суднаў і суднаў з рухавікамі на рэках Беларусі абмяжуюць з 1 красавіка па 30 мая

**На час вясенняга нерасту рыбы ў Беларусі ўводзяцца абмежаванні на выкарыстанне маламерных суднаў, суднаў з рухавікамі і гідрацыклаў. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

Як растлумачылі ў міністэрстве, у адпаведнасці з правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, зацверджанымі Указам нумар 580 ад 8 снежня 2005 года, выкарыстанне грамадзянамі маламерных суднаў і суднаў з рухавікамі ў рыбалоўных угоддзях забаронена ў тэрміны забароны на лоўлю рыбы (з 1 красавіка па 30 мая).

"Пры гэтым у выпадку неабходнасці выкарыстання маламерных суднаў і суднаў з рухавікамі, гідрацыклаў для перамяшчэння па водным аб'екце ў гаспадарчых, транспартных і іншых мэтах мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя маюць права прымаць рашэнне аб дазволе выкарыстання грамадзянамі такіх суднаў у рыбалоўных угоддзях у тэрміны забароны на лоўлю рыбы", – адзначылі ў міністэрстве.

# Пенсіянеры ўстроілі панажоўшчыну ў Докшыцкім раёне

■ **Сяржук Серабро**

**Каля гадзіны дня 23 сакавіка ў Докшыцах у цэнтральную раённую бальніцу ў стане алкагольнага ап'янення быў дастаўлены 61-гадовы пенсіянер з пранікальнай колата-рэзанай ранай пярэдняй брушнай сценкі.**

Супрацоўнікамі АУР і УІМ РАУС усталявана, што гадзінай раней падчас сваркі пацярпелага стукнула нажом 56-летняя аднавяскоўка, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

24 сакавіка ў адносінах пенсіянеркі АСК узбуджана крымінальная справа па частцы 1 артыкула 147 КК «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання», якая прадугледжвае абмежаванне волі на тэрмін ад трох да пяці гадоў ці пазбаўленне волі на тэрмін ад чатырох да васьмі гадоў.

# Лукашэнка даручыў дзяржкантролю разабрацца з ЖКГ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўніком Камітэта дзяржкантролю Аляксандрам Якабсонам 24 сакавіка заявіў аб неабходнасці разабрацца з тым, што адбываецца ў сістэме ЖКГ. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, да функцыянавання жыллёва-камунальнай гаспадаркі і фармавання тарыфаў у гэтай сферы назапасілася шмат пытанняў.

Беларускі лідар падкрэсліў, што для яго гэта "вельмі важнае пытанне" і разам з тым гэта "балючае пытанне для насельніцтва". "Самае галоўнае - мы павінны ведаць рэальны кошт і параўнаць яго з той цаной жыллёва-камунальных паслуг, якую мы зараз прапануем насельніцтву. Мы павінны ўрэшце разабрацца, чаго каштуюць паслугі ЖКГ", - сказаў прэзідэнт.

Паводле інфармацыі Аляксандра Лукашэнкі, сабекошт ЖКП у цяперашні час "вельмі адрозніваецца ад таго, як мы гэта ўяўлялі". У прыватнасці, КДК у рамках сваіх праверак выяўляе ў сістэме ЖКГ "нейкіх пасярэднікаў", што, на думку кіраўніка дзяржавы, "наогул недапушчальна". "Любое пасярэдніцтва - гэта павелічэнне цаны", - адзначыў ён.

У сваю чаргу, Аляксандр Якабсон далажыў прэзідэнту, што яго ведамства ў рамках правядзення працы не шукае спосабаў павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі, а імкнецца знайсці шляхі скарацыць выдаткі на жыллёва-камунальныя паслугі з дапамогай больш рацыянальнага выкарыстання бюджэтных рэсурсаў.

Паводле слоў кіраўніка КДК, гэтая праца павінна прывесці да таго, што "ўдзельная вага тых тарыфаў, якія плаціць насельніцтва, стане цалкам іншай у агульным графіку". "Гэта значыць, мы не ідзем па шляху, што насельніцтва павінна плаціць больш, а наадварот - скарачэнне выдаткаў", - сказаў ён.

Кіраўнік кантрольнага ведамства далажыў прэзідэнту, што ўжо да 1 мая гэтага года будуць перагледжаны нормы і нарматывы на аказанне камунальных паслуг, якія не пераглічваць з 2007 года. Акрамя таго, у сістэме ЖКГ трэба будзе правесці дыферэнцыяванага аплаты, скасаваць пасярэдніцтва і змяніць структуру кіравання.

**У нашай газеце (№9 ад 27 лютага) у артыкуле “Лебедзя гадуем усёй вёскай” паведамлялася, як лебедзь, у лютыя маразы, прыйшоў у вёску Праходы па дапамогу да людзей. Добрыя людзі прытулілі лебедзя і назвалі яго Ханам. Гадавалі ўсёй невялікай вёскай...**

**Аднак, у Праходы ўжо прыйшла вясна.**

**■ Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*



# Лебедзя выпусцілі ў Сэрвач

Лебедзя, які жыў у вёсцы Праходы, выпусцілі на волю. Зараз ён жыве каля маста праз раку Сэрвач, што побач з вёскай Кіякова Докшыцкага раёна.

Жыхарка вёскі Праходы Юзэфа Рыжая кажа: ***“Насіла раней есці, хадзіла кожны дзень, а зараз ён у ва мне не мае патрэбы, самастойны стаў. Цяпер ужо вымыўся, стаў прыгожы.***

***Як пацяплела, шпакі тут прыляцелі, у Вэрці*** *(суседка, у хлеве якой жыла птушка – З.Л.)* ***певень за сцяной у куратніку спявае, качкі там…, наш лебедзь засумаваў, сядзеў і адмаўляўся есці.***

***Я кажу на Вэрцю, ну вось, зіму прагадавалі, а цяпер ён можа загінуць, пайду ў разведку. І я пайшла да ракі.”***

Падышоўшы да ракі, цётка Юзэфа пабачыла, што Сэрвач ідзе ўжо поўным ходам, лёду амаль не засталося. Я пазваніла дзецям, каб прыехалі, дапамаглі адвесці птушку.

Падчас размовы мы вельмі шкадуем, што не абмяняліся ў свой час тэлефонамі, і аўтара не змаглі запрасіць на гэты ўрачысты момант. Але нават па тых эмоцыях у голасе спадарыні Юзі я разумею, што расставанне было вельмі хвалюючым:

***– Як убачыў ваду, ай, як зарадваўся. Як размахнуў крылямі, а тады з усяго размаху - бабух! І як даў пятую хуткасць, як ракета, і пайшоў, і пайшоў, і пайшоў…***

***Далёка заплыў, аж толькі галаву мы бачылі, тады развярнуўся, прыплыў назад да маста, стаў кружыцца. Ну, кажу, Хан*** *(такую мянушку далі лебедзю – З.Л.),* ***пакуль, прыходзь на наступную зіму.***

Па словах цёткі Юзі, лебедзь заўсёды плавае каля маста, але ён вельмі асцярожны, блізка людзей да сябе не дапускае. Так здарылася і тады, калі мы прыехалі, каб сфатаграфаваць Хана. На масце ўжо быў чалавек, і лебедзь плаваў удалечыні. Прыйшлося браць тэлеаб’ектыў, каб сфатаграфаваць птушку з вялікай адлегласці.

Вельмі сумуе па лебедзю і Вера Радзевіч, у хлеве якой лебедзь чакаў вясны. Жанчыны баяцца, каб які нядобры чалавек не застрэліў Хана. Але хочацца спадзявацца, што народ у нас не такі дзікі, каб забіваць лебедзя.

***“Я вельмі задаволеная, што змагла яго выратаваць,”*** – кажа на развітанне Юзэфа Рыжая. Хочацца спадзявацца, што Хан знойдзе сабе пару і будзе і надалей жыць у Сэрвачы і радаваць людзей сваёй прыгажосцю.


Юзэфа Рыжая


**Чайкі вярнуліся на глыбоцкія азёры. Возера Кагальнае.** *Фота Зміцера Лупача.*

# Браканьер быў спарцменам няважным – яго дагналі інспектары

**■ Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Вясна цалкам уступіла ў свае правы, значна пацяплела, і грамадзяне масава паехалі на прыроду адпачыць, папесціць сябе, сваіх блізкіх, сяброў смачным шашлыком. Усё б было добра, калі б не адно, але. Выязджаючы на прыроду адпачыць, шматлікія грамадзяне не задумваюцца пра наступствы свайго знаходжання, пакідаюць пасля сябе горы смецця, бутэлек, зламаныя лаўкі, высечаныя дрэвы, а асобныя едуць на прыроду, азёры і вадаёмы з браканьерскай мэтай.

Што за адпачынак на вадаёме без рыбалкі, так часта думаюць нашы грамадзяне і ўвогуле – яны маюць рацыю, зварыць смачную юшку ды на беразе прыгожага возера - хіба гэта не адпачынак. Але ці заўсёды законна здабываецца рыбка для юшкі. На жаль, яшчэ можна сустрэць чалавека з сеткай, восцямі.

Вось і ў ноч на 23 сакавіка супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі знаходзіліся ў чарговым рэйдзе па ахове нашай прыроды ад браканьераў, як ім паступіла паведамленне пра тое, што на штучнай сажалцы в. Ломашы невядомыя грамадзяне ловяць рыбу сеткамі. Супрацоўнікі інспекцыі сумесна з працаўнікамі міліцыі неадкладна выехалі на сігнал, і аператыўны выезд даў дадатны вынік. Наўпрост на месцы незаконнай здабычы рыбы затрыманыя чатыры жыхары г. Наваполацка і г.п. Ветрына, якія ўжо пагрузілі ў аўтамашыны мяшкі з сеткамі і рыбай, спадзявaліся з’ехаць неўзаметку, але Парушальнікаў чакае раённы суд і прыстойны грашовы штраф, хай ведаюць, што рыба на тэрыторыі Глыбоцкага раёна вельмі дарагая і лавіць незаконнымі сродкамі ў нас яе не трэба.

А вось днём 24 сакавіка супрацоўнікі міжрайінспекцыі затрымалі ўжо жыхара Глыбоцкага раёна, які яшчэ толькі ішоў за рыбкай, але з забароненай прыладай рыбалоўства, восцямі. Затрыманы грамадзянін Н., жыхар в. Кухты Глыбоцкага раёна, убачыўшы супрацоўнікаў інспекцыі, спрабаваў уцячы, але спартовец з яго няважны, інспектары яго хутка дагналі, зараз прыйдзецца адказваць перад законам.

Толькі ў перыяд з 17 па 24 сакавіка інспектарамі выяўлена 9 парушэнняў прыродаахоўнагазаканадаўства, у тым ліку 1 крымінальна-каральнае, незаконнае паляванне і здабыча 1 асобіны выдры еўрапейскай. Канфіскавана 570 метраў сетак, 1 восці, 2 паляўнічых стрэльбы і 323 м.куб. драўніны. З наступленнем цяпла ажывіліся і браканьеры, а дарма.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства просім паведамляць па тэлефонах “гарачая лінія”: 8-02156-2-86-70, мабільныя: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# У 2013 годзе на туберкулёз захварэлі 90 медработнікаў

**У 2013 годзе на туберкулёз захварэлі 90 медработнікаў, 12 з іх працавалі ў супрацьтуберкулёзных медыцынскіх установах, паведаміўдырэктар Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра пульманалогіі і фтызіятрыі Генадзь Гурэвіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску 24 сакавіка.**

У 2012 годзе быў зарэгістраваны 71 выпадак актыўнага туберкулёзу сярод работнікаў арганізацый аховы здароўя і аздараўленчых устаноў.

Гурэвіч звярнуў увагу на тое, што часцей за ўсё на туберкулёз хварэюць не работнікі супрацьтуберкулёзных медустаноў, “якія гатовы да гэтай небяспекі”, а супрацоўнікі звычайных бальніц. “Яны не ведаюць ступень эпіднебяспекі пацыента, калі ён першы раз звяртаецца па дапамогу. Да таго часу, калі бактэрыяскапічна не вызначыцца ў макроце кіслотаўстойлівая бактэрыя, медработнік не ведае, ці ўяўляе пацыент небяспеку”, — патлумачыў Гурэвіч.

“Мы ўсюды гаворым аб тым, што любога пацыента, які кашляе, трэба разглядаць як крыніцу павышанай небяспекі і ўсе работнікі на прыёме павінны быць забяспечаны сродкамі індывідуальнай абароны”, — падкрэсліў дырэктар цэнтра.

Паводле яго слоў, цяпер у супрацьтуберкулёзных стацыянарах усе медработнікі забяспечаны рэспіратарамі, пацыенты носяць марлевыя павязкі або хірургічныя маскі, у памяшканнях працуюць бактэрыцыдныя лямпы.

Як адзначыў Гурэвіч, выпадкі захворвання на туберкулёз сярод медработнікаў рэгіструюцца толькі ў Мінскай і Гомельскай абласцях.

***Анастасія Саланові́ч, БелаПАН.***

# У Беларусі і Мінску пабіты тэмпературныя рэкорды дня 101-гадовай даўніны

**24 сакавіка быў пабіты абсалютны максімум дня, які трымаўся з 1913 года.**

На метэастанцыі «Палеская» ў Брэсцкай вобласці паветра прагрэлася да 21,2 градуса цяпла. Ранейшы максімум — 19,9 градуса — быў зафіксаваны 101 год таму ў Мар’інай Горцы (Мінская вобласць). На самой «Палескай» дзённы экстрэмум перавышаны на 6,2 градуса (15 градусаў у 2007 годзе).

Абнавіўся рэкорд і ў сталіцы — 18,3 градуса супраць 18 у 1913 годзе.

Такая ж карціна назіралася і ва ўсіх абласных цэнтрах: Віцебск — 16,2 градуса (было 15 у 1938 годзе), Гродна — 16,4 (15,7 у 2004-м), Магілёў — 18,1 (14,3 у 1959-м), Гомель — 19,4 (14,6 у 1959-м), Брэст — 19,5 (17,4 у 1959-м).

Напярэдадні ў Мінску быў паўтораны рэкорд сакавіка — плюс 18,9 градуса (такая ж тэмпература ўпершыню была адзначана 19 сакавіка 1990 года).

У найбліжэйшыя суткі на большай частцы тэрыторыі вельмі цёплае для гэтага часу надвор’е захаваецца. Варта зазначыць, што ў панядзелак на крайняй поўначы краіны тэмпература была намнога бліжэйшай да кліматычнай нормы — 8 градусаў.

***Д. Уласаў, БелаПАН***

## МНС інфармуе
**на 25.03.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 279;
Гібель людзей – 45, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 14;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 267.87 млн. руб.

